


Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!


# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 22 (96) | 6 лістапада 1930 г. | № 22 (96)


## ЗЬМЕСТ.



Працяг зьместу гл. далей.

Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

**Паст. 183.** Пра недапушчальнасьць скарыстаньня пажарных коняў і маемасьці на мэты, якія ня маюць дачыненьня да пажарнай аховы.

Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР, Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Шляхоў СССР пры СНК БССР і Кіраўніцтва Беларускай краявой Канторы „Саюзтрансу“.

**Паст. 184.** Пра ўзмацненьне пажарнай аховы памяшканьняў, у якіх захоўваюцца пераваэімыя цяжары.

---

# Пастановы Калегіі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

## Паст. 172. Пра рэарганізацыю сыстэмы Ільнаканапляводсаюзу і вытворчае капераваньне (прат. № 39 за 30 верасьня 1930 г., п. 380).

Адзначыць, што:

1) Ліквідацыя акруговых саюзаў прыняла зацяжны характар, у зьвязку з чым дырэктывы партыйных і савецкіх арганізацый аб сканчэньні ліквідацыі да 1 кастрычніка ня выкананы, асабліва гэта датычыцца Полацкай, Магілеўскай і Аршанскай акруг, а дырэктывы аб рэарганізацыі раённых саюзаў выкананы са спазьненьнем (замест 1-га верасьня—21 верасьня).

2) Апарат раённых саюзаў укамплектаваны нездавальняюча: наглядаюцца ў некаторых раёнах лішкі спэцыялістых, а ў некаторых—недахоп іх. Да пераразьмеркаваньня гэтых спэцыялістых Ільнапяньковы Саюз да гэтага часу не прыступіў, а таксама некаторыя спэцыялістыя, накіраваныя ў Ільнаканапляводсаюз з акрпаляводсаюзаў, да гэтага часу не зьявіліся на месца працы.

3) На вытворчае капераваньне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з боку РайЗА, раённа-калгасных каперацыйных саюзаў не зварачвалася ніякай увагі, дзякуючы чаму заданьне СНК аб капераваньні насельніцтва на 85 проц. па становішчу на 1 кастрычніка ня выканана, а выканана толькі на 18 проц., а таксама не праведзена праца рэарганізацыі існаваўшых вытворчых каператываў у першапачатковыя паселішчныя са спэцыялізаваным напрамкам.

4) У зьвязку з тым, што з боку раённых арганізацый ня прынята захадаў шырэй разгарнуць працу па капераваньню бядняцка-серадняцкага насельніцтва, ёсьць поўная пагроза невыкананьня пляну паянакапленьня, вызначанага Урадам БССР.

Выходзячы з гэтага, Калегія НКЗ БССР пастанаўляе:

а) Прапанаваць Праўленьню Ільнаканапляводсаюзу скончыць працу ліквідаваньня акрпаляводсаюзаў не пазьней 15/X г. г.

б) Даручыць Белканапляводсаюзу правесьці ўкамплектаваньне апарату раённых саюзаў, для чаго ўтварыць перакідку спэцыялістых з аднаго раёну ў другі, у залежнасьці ад забясьпечаньня гэтымі спэцыялістымі таго або іншага раёну.

Паказаць РайЗА і Белканапляводсаюзу на недапусьцімыя адносіны да выкананьня партыйных і савецкіх дырэктыў аб тэрмінах арганізацыі раённых каперацыйных саюзаў.

в) Абавязаць РайЗА, райкапсаюзы і Белільнаканапляводсаюз забясьпечыць у практычнай працы рэарганізацыю існуючых спэцыялізаваных вытворчых таварыстваў у спэцыялізаваныя паселішчныя вытворчыя таварыствы, а таксама выкананьне пастановы Ураду БССР аб капераваньні ў прасьцейшыя вытворчыя аб'яднаньні ня менш 85 проц. да 1 студзеня 1931 г.

г) Абавязаць РайЗА, Райкапсаюзы і Белільнаканапляводсаюз забясьпечыць мабілізацыю паявых уносаў у адпаведнасьці з вызначанымі лімітамі Ураду БССР.

д) Белільнаканапляводсаюзу для ўкамплектаваньня апарату райкапсаюзаў распрацаваць плян правядзеньня кароткатэрміновых курсаў і правесьці іх у бліжэйшы тэрмін, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падрыхтоўку інструктароў па працы сярод батрацтва, беднаты і культмасавай працы, а таксама інструктароў-арганізатараў.

е) Даручыць Белільнаканапляводсаюзу і Белкалгасбанку прапрацаваць пытаньне аб аднаўленьні паявых капіталаў пайшчыкаў былых с.-г. крэдытных таварыстваў, якія зьвернуты на пакрыцьцё страт гэтых таварыстваў.

ж) Абавязаць Белільнаканапляводсаюз, РайЗА і райкапсаюзы забясьпечыць арганізацыю батрацка-бядняцкіх груп пры ўсіх выбарных капeратыўных органах.

з) Даручыць Плянава-Эканамічнаму Сэктару, Сэктару Тэх. культур і расьлінаводзтва разам з Белільнаканапляводсаюзам разгледзіць сецъ жывёлагадоўчых раёнаў у мэтах павялічэньня колькасьці ільнаканапляводных раёнаў у БССР.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

**Паст. 173. Па дакладу Чарэйскага РайЗА аб ходзе земляўпарадкаваньня калгасаў і адзінаасобных гаспадарак, асеньняй сяўбы і сіласаваньня кармоў (прат. № 39 за 30 верасьня 1930 г., п. 381).**

1. Адзначыць, што з боку Прэзыдыуму Чарэйскага РВК ня было дастатковага кіраўніцтва працай РайЗА, чаму апошні яшчэ і да сёньняшняга дня не перабудаваў сваёй працы з тым, каб стаць баявым штабам сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў раёне. Кіраўніцтва РайЗА ня стала на чале і ня здолела арганізаваць працу па ўцягненьню бядняцка-серадняцкага сялянства ў калгасы, а таксама не забясьпечыла ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па разьвіцьцю жывёлагадоўлі.

2. Паказаць Райвыканкому, што ў працы РайЗА, замест забясьпечаньня бальшавіцкіх тэмпаў ў ходзе ўборачнай асеньняй кампаніі і сіласаваньні кармоў і злучэньня гэтых мерапрыемстваў з разгортваньнем калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак панавала, бязьдзейнасьць і ганебнае скажэньне палітыкі Партыі і Ураду на вёсцы.

Пры адсутнасьці працы па ўстанаўленьню правільных узаемаадносін паміж калгасьнікамі і адзінаасобнікамі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ёсьць выпадкі грубых парушэньняў інтарэсаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак пры калектывізацыі с.-г.; побач з гэтым, спробам кулацтва, накіраваным на падрыў справы калектывізацыі, належнага адпору не давалася.

3. Адзначыць неземлеўпарадкаванасьць на 1 верасьня г. г. 27 калгасаў, а па даных загадчыка РайЗА—15 калгасаў, на 30 верасьня. Праца па земляўпарадкаваньню праводзілася без дастатковага ўдзелу бядняцтва, праекты землеадводу на бядняцка-серадняцкіх сходах не абгаварваліся, савецкая грамадзкасьць навокал земляўпарадкаваньня згрупавана ня была, праца па адводу сенажацяй і асеньняга кліну праводзілася са значным спазьненьнем.

4. Адзначыць, што кіраўніцтва РайЗА дапусьціла прадстаўленьне неабгрунтаваных заявак на насеньне, самаўласнае разьмеркаваньне да 5000 пудоў насеннага матарыялу і няпоўную кантрактацыю з па-

рушэньнем клясавай лініі ў разьмеркаваньні, у выніку чаго частка бядняцкіх гаспадарак засталася без насеньня.

5. З боку РВК і РайЗА не зварочвалася ўвага на арганізацыйнае і гаспадарчае замацаваньне калгасаў, чаму пасьля вясеньняй сяўбы быў масавы адліў з калгасаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а частка калгасаў зусім распалася (Шчадуты, Зялёная Пушча і інш.). Спаборніцтва, ударніцтва сярод калгасаў па выкананьню плянаў сяўбы і ўборкі не разгорнута.

Усё адзначанае вышэй сьведчыць, што сучаснае кіраўніцтва РайЗА ня здольна выконваць пастаўленых Партыяй і Урадам задач па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, а таму Калегія НКЗ лічыць неабходным:

1. Прасіць Прэзыдыум Чарэйскага РВК аб неадкладнай замене загадчыка РайЗА і ўжыць на месцы мерапрыемствы да ліквідацыі адмоўных бакоў у працы Райза, зворачваючы больш увагі на правядзеньне с.-г. мерапрыемстваў.

2. Даручыць Арганізацыйна-Інструктарскаму Сэктару справу аб разьмеркаваньні насеннага фонду перадаць Пракурору Рэспублікі для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці за самаўласнае разьмеркаваньне насеньня без абмену на збожжавыя і яравыя культуры, ня поўную кантрактацыю з парушэньнем клясавай лініі ў разьмеркаваньні.

3. Прапанаваць Чарэйскаму РайЗА разгарнуць працу па арганізацыі новага прыліву ў калгасы, уцягненьню бядняцка-серадняцкага насельніцтва ў калгасы, вядучы бязьлітасную барацьбу з кулацтвам, рашуча зьліквідаваўшы выпадкі нездаровых узаемаадносін паміж калгасьнікамі і адзінаасобнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі на падставе правільнага правядзеньня палітыкі Партыі і Ураду на вёсцы.

4. Згрупаваць увагу мясцовых арганізацый і савецкай грамадзкасьці навокал ліквідацыі недахопаў у ходзе асеньняй сяўбы, забясьпечаньні бальшавіцкіх тэмпаў у правядзеньні яе, злучыўшы практычна сяўбу з уцягненьнем бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы.

5. Даручыць РайЗА і РВК палепшыць кіраўніцтва ў калгасах, забясьпечыўшы яго лепшымі працаўнікамі з батрацтва і бядняцтва і лепшымі серадняками, зварочваючы ўвагу на гаспадарчае замацаваньне калгасаў, рашуча зьнішчыўшы безгаспадарнасьць, шкодніцтва паасобных элемэнтаў калгасьнікаў, якія разлагаюць і падрываюць справу калектывізацыі ўнутры.

6. Прапанаваць РайЗА разгарнуць спаборніцтва, ударніцтва паміж калгасамі, вытворчымі аб'яднаньнямі, а таксама сярод спэцыялістых, сачыць за своечасовым выкананьнем плянавых работ, ўстанавіўшы цьвёрдую адказнасьць за выкананьне працы з боку асобных кіраўнікоў калгасаў і спэцыялістых, узьняўшы працдысцыпліну на належную вышыню.

7. Прапанаваць РайЗА працу па земляўпарадкаваньню паставіць так, каб забясьпечыць сваечасовы адвод пад зябь для яравога кліну 1931 г., дапускаючы земляўказаньне ў выпадках немагчымасьці сваечасовага правядзеньня земляўпарадкаваньня калгасаў.

8. У адпаведнасьці з маючыміся спэцыяльнымі дырэктывамі Партыі і Ураду надаць асаблівую ўвагу справе разьвіцьця жывёлагадоўлі і вырашэньню кармовай і малочнай праблемы праз правядзеньне сіласаваньня кармоў, укамплектаваньне стада калгасаў і саўгасаў, вырашчваньне маладняку і інш.

9. Абавязаць РайЗА, райкапсаюзы і райкалгассаюзы у 2-х тыднёвы тэрмін аформіць дагавор на кантрактацыю жыта, на насеньне з абавязковай заменай па эквіваленту на збожжавыя і яравыя культур-

ры, праверыўшы насенны фонд КСУ і скарыстаньне яго, паставіўшы пытаньне перад Прэзыдыумам РВК аб прыняцьці рашучых мер да ліквідацыі запазычанасьці па лініі КСУ, забясьпечыўшы бядняцка-серадняцкія гаспадаркі насенным матарыялам.

10. Даручыць Сэктару кадраў папоўніць Чарэйскі раён спэцыялістамі па сельскай гаспадарцы, паставіўшы перад адпаведнымі арганізацыямі пытаньне аб хутчэйшым адкамандыраваньні ў Чарэйскі раён на працу Загадчыка Чарэйскага РайЗА, які прызначаны на гэту працу ў парадку ўзмацненьня раёнаў работнікамі.

11. Прасіць ЦВК і СНК БССР у бліжэйшы час заслухаць даклад Прэзыдыуму Чарэйскага РВК, а таксама даць паказаньні ўсім РВК аб большым удзеле прэзыдыумаў РВК у кіраўніцтве працай РайЗА па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

12. Даручыць Арганізацыйна-Іструктарскаму Сэктару НКЗ БССР праз 2 месяцы праверыць яшчэ раз працу Чарэйскага РайЗА і аб выніках далажыць Калегіі НКЗ БССР.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

**Паст. 174. Па пытаньню мабілізацыі сродкаў (пратакол № 39, за 30 верасьня 1930 г., п. 383).**

Адзначыць, што:

а) мабілізацыя сродкаў па становішчу на 20 верасьня выканана на 41 проц.;

б) выкананьне заданьняў па мабілізацыі сродкаў з боку раённых крэдытных т-ваў, асабліва па збору паёў і пратэрміновак, нездавальняючае;

в) вакол мабілізацыі сродкаў не мабілізавана ўвага мясцовых раённых зямельных і калгасна-каперацыйных арганізацый.

Выходзячы з паказанага, Калегія НКЗ БССР пастанавіла:

1. Беларускай Канторы Саюзкалгасбанку давесьці плян да крэдытных т-ваў у суме пратэрмінаваных і тэрміновых пазык 12.023 тыс. руб., па паявых і ўступных уносах 300 тыс. руб., па мэтавых укладах—300 тыс. руб.

2. Абавязаць каперацыйныя цэнтры прыняць усе захады да забясьпечаньня своечасовага звароту калгасамі крэдытным т-вам тэрміновых і пратэрмінаваных пазык.

3. Абавязаць РайЗА, калгасна-каперацыйную сыстэму забясьпечыць дапамогу крэдытным т-вам у працы па выкананьню пляну мабілізацыі сродкаў, маючы на ўвазе, што ў залежнасьці ад мабілізацыі сродкаў будзе залежыць і выкананьне пляну крэдытаваньня сельскай гаспадаркі.

4. Даручыць Беларускай Канторы Саюзкалгасбанку ўстанавіць сыстэматычны кантроль, жывы інструктаж за ходам выкананьня заданьня Ураду па мабілізацыі сродкаў у крэдытныя т-вы.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

**Паст. 175. Па дакладу Белсадгародсаюзу аб ходзе арганізацыі райкапсаюзаў і вытворчых паселішчных таварystваў (прат. № 40 за 5 кастрычніка 1930 г., п. 391).**

1. Прыняць да ведама, што Белсадгародсаюзам арганізацыя 8 райкапсаюзаў праведзена ў тэрмін, вызначаны ўрадавымі і дырэктыўнымі органамі.

2. Адзначыць, што ліквідацыя Гомельскага Акрсадгародсаюзу ў тэрмін, вызначаны ўрадавымі органамі, ня скончана, аб чым давесьці да ведама СНК БССР.

3. Адзначыць, што з боку Белсадгародсаюзу ня было ўжыта дастатковых мер да ўстанаўленьня належнай дысцыпліны ў аперацыйнай рабоце, не праведзена да сучаснага моманту рэарганізацыя прасьцейшых вытворчых т-ваў спэцыяльнага напрамку ў паселішчныя садова-гародныя, а таксама з боку РайЗА, райкапсаюзу і Белсадгародсаюзу ня было прынята дастатковых мер да разгортваньня працы па капераваньню бядняцка-серадняцкага насельніцтва ў паселішчныя вытворчыя таварыствы.

4. Адзначыць недаацэнку з боку асобных РайЗА і раённых калгасна-каперацыйных арганізацый значэньня арганізацыі спэцыялізаваных садова-гародных калектыўных гаспадарак і паселішчных т-ваў, ў зьвязку з чым вызначаная спэцыялізацыя для раёнаў ў паасобных выпадках праводзіцца ня з усёй рашучасьцю.

5. Ліквідкомы па ліквідацыі акруговых зямельных каперацыйных установ дапусьцілі недаацэнку значэньня накіраваньня спэцыялістых на працу ў спэцыялізаваныя садова-гародныя раёны, у зьвязку з чым склалася становішча, па якому спэцыялістыя, працуючыя ў галіне садоўніцтва і гародніцтва, распылены (прыклад: Гомельская Ліквід. камісія сканцэнтравала 3 садаводы ў Церахаўскім раёне).

6. У практычнай працы раённых зямельных і калгасна-каперацыйных арганізацый назіраюцца выпадкі неперабудовы працы ў адпаведнасьці з задачамі, ускладзенымі на зямельныя калгасна-каперацыйныя органы ў зьвязку з ліквідацыяй акруг і рэарганізацыяй калгасна-каперацыйнай сыстэмы.

7. Паказаць садова-гароднай капярацыі на зусім недапушчальнае зьявішча, калі штаты, зацьверджаныя РСІ ў зьвязку з дырэктывай аб скарачэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў, у 13 чал. для райкапсаюзу даведзены ад 40 да 50 чал. (Віцебск, Гомельскі раён).

Выходзячы з адзначанага, Калегія НКЗ БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Белсадгародсаюз скончыць ліквідацыю былога Гомельскага акруговага Садова-гароднага саюзу не пазьней 15 кастрычніка і паведаміць НКЗ аб выкананьні гэтае дырэктывы.

2. Абавязаць Белсадгародсаюз, РайЗА і райкапсаюзы забясьпечыць у практычнай працы рэарганізацыю спэцыяльных вытворчых т-ваў у паселішчныя вытворчыя садова-гародныя т-вы, а таксама выкананьне дырэктыў Ураду аб капераваньні бядняцка-серадняцкага насельніцтва да 1 студзеня ня менш як на 85 проц.

3. Абавязаць Белсадгародсаюз, РайЗА ў адпаведнасьці з дырэктывай Ураду па пытаньню аб паянакапленьні на квартал кастрычнік-сьнежань, забясьпечыць выкананьне вызначанага пляну ў 900.000 руб.

4. Даручыць Белгародсаюзу ў практычнай працы забясьпечыць у пасялковых вытворчых т-вах арганізацыю груп беднаты і батрацтва, а таксама забясьпечыць капераваньне батракоў і беднякоў на працягу кварталу кастрычнік-сьнежань на ўсе 100 проц.

5. Даручыць Плянава-Эканамічнаму Сэктару, Сэктару тэх. культур і расьлінаводзтва і Белсадгародсаюзу не пазьней 15/X разгледзець пытаньне аб далейшым вылучэньні раёнаўдля спэцыялізацыі ў галіне садоўніцтва і гародніцтва.

6. Даручыць Белсадгародсаюзу разам з Сэктарам кадраў НКЗ выявіць няправільна скарыстаных спэцыялістых уне садовых раёнаў, спэцыялізуючыхся ў галіне садоўніцтва і гародніцтва.

7. Даручыць Белсадгародсаюзу разам з Сэктарам тэхкультур і расьлінаводзтва распрацаваць пытаньне аб формах арганізацыі пчалярства ў паселішчных вытворчых т-вах, а таксама аб формах іх абслугоўваньня.

8. Абавязаць Белсадгародсаюз не пазьней 10 кастрычніка давесьці заданьне на квартал—кастрычнік-сьнежань да раённых саюзаў, калгасаў і пасялковых вытворчых т-ваў.

9. Лічыць патрэбным, каб абслугоўваньне прадпрыемстваў па первястковай апрацоўцы бульбы, садовіны і гародніны, маючыхся ў калгасах і вытворчых т-вах, сканцэнтраваць у Белсадгародсаюзе.

10. Лічыць патрэбным арганізацыю культуры бульбы на тэрыторыі БССР сканцэнтраваць у Белсадгародсаюзе, пры чым працу па культуры бульбы ў спэцыялізаваных раёнах праводзіць непасрэдна праз свае райкапсаюзы, а ў інш. раёнах праводзіць праз райкапсаюзы, належачыя іншым спэцыялізаваным сыстэмам сельска-гаспадарчай капярацыі.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

**Паст. 176. Па дакладу аб уборачнай і ходзе асеньняй пасеўнай кампаніі па Пухавіцкаму раёну (прат. № 40 за 5 кастрычніка 1930 г., п. 393).**

1. РайЗА і раённыя калгасна-каперацыйныя аб'яднаньні не зрабілі належнай увязкі працы па далейшай калектывізацыі с.-г. з праводзячыміся гаспадарча-палітычнымі кампаніямі, у выніку чаго ў працэсе праходзячага асеньняга севу ўцягнута ў калгасы па раёну толькі 14 гаспадарак з плошчаю 84 га.

2. Ня гледзячы на сканчэньне ў асноўным уборачнай кампаніі, апошняя ўвесь час праходзіла вельмі марудна, з прычыны чаго асеньні сеў прыняў зацяжны характар, вызначаная плянам НКЗ БССР плошча яшчэ не засеяна і да гэтага часу.

3. Па раён. пляну асеньняй пасеўкампаніі мае месца зьмяншэньне без усякага абгрунтаваньня плошчы засеву азімага кліну па індывідуальнаму сэктару. Наогул, па раёну з 4573 га, плошча жыта 4543 га і пшаніцы—30 га.

4. Ня зьвернута належная ўвага на справу тарпаваньня і вапнаваньня глебы, што вынікае з работы па калгасах, дзе тарпаваньне выканана на 36 проц., а вапнаваньне—на 46,5 проц. плянавага заданьня. Па аднаасобных гаспадарках тарпаваньне не праводзіцца зусім, а вапнаваньне праведзена на 48,9 проц. пляну, разам з чым зусім не праведзена вапнаваньне пад зяблевую ўспашку.

5. Выкананьне пляну сіласаваньня зусім слабае, што характарызуецца выкананьнем па калгасах толькі 19,1 проц., па аднаасобных гаспадарках—0,76 проц. заданьня.

Калегія НКЗ БССР прапануе для тэрміновага выкананьня наступнае:

1. Зараз-жа выправіць плян асеньняй пасеўкампаніі да поўнага выкананьня пляну НКЗ БССР па азімаму кліну праз давядзеньне яго да с.-с. і паселішчаў.

2. Райза і калгасна-каперацыйным аб'яднаньням шырока разгарнуць працу па далейшай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на замацаваньне маючыхся калгасаў і ўцягненьне ў гэтакія навакольных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

3. Канстатуючы, што недастаткова зьвернута ўвага на падрыхтоўчую працу да дня ўраджаю і калектывізацыі, прапануецца ўзмацніць падрыхтоўчую працу праз камісіі садзейнічаньня пры с/с, саўгасах і калгасах пад лёзунгамі разьмеркаваньня ўраджаю ў калгасах і шырокага разгортваньня справаздачнай кампаніі ў калгасах і навакольных паселішчах аб выніках гаспадарчага году ў калгасах.

4. Зьвярнуць асаблівую ўвагу і дабіцца тэрміновага сканчэньня ўборкі ўсяе бульбы і караньплодаў, выкананьня пляну бульбанарыхтовак з адначасовым захаваньнем насеннай бульбы.

5. Ужыць тэрміновыя і рашучыя захады ў напрамку выкананьня пляну сіласаваньня як па саўгасах і калгасах, так і па сялянскіх гаспадарках з адначасовым выкананьнем заданьня НКЗ БССР па палепшаньню сенажацяй.

6. Дабіцца поўнага выкананьня дырэктывы па тарпаваньню і вапнаваньню глебы па абагуленаму і індывідуальнаму сэктарах, асабліва ва ўспашцы пад зябь, не дапушчаючы загрузкі прадукцыйнай вапнай маючагася заводу, прадугледзіўшы забясьпечаньне заводу сыравінай для бесперапыннай працы зімой.

7. Райза, Райкалгассаюзу, Райкапсаюзу і Райкрэдсаюзу ўжыць захады, каб дабіцца поўнага выкананьня пляну па мабілізацыі сродкаў, памятуючы, што ад выкананьня мабілізацыі сродкаў будзе залежыць асыгнаваньне на мерапрыемствы па с.-г.

8. Асаблівую ўвагу зьвярнуць і дасягнуць належнай арганізацыі ў працы ў калгасах праз арганізацыю ўдарных брыгад, сацспаборніцтва як унутры калгасаў, так і паміж асобнымі калгасамі, з адначасовым правядзеньнем шырокай культмасавай работы сярод калгасьнікаў і палепшаньнем падліку працы.

9. Дабіцца поўнага ахопу вытворчым каапераваньнем бядняцка-серадняцкіх гаспадарак праз арганізацыю вытворчых таварystваў з спэцыяльным жывёлагадоўчым напрамкам.

10. Райза ўстанавіць сталы нагляд і дабіцца поўнага ажыцьцяўленьня пляну зяблевай успашкі па раёну.

11. Райза і калгасна-каперацыйным аб'яднаньням прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні месячніку сьвінагадоўлі і дабіцца скончэньня будаўніцтва ў саўгасах Сьвінаводтрэсту і калгасах з адначасовым укамплектаваньнем сьвінаматкамі.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

**Паст. 177. Па дакладу Белкалгасбуду аб выкананьні праграмы будаўніцтва ў саўгасах і калгасах (прат. № 40 за 5/Х-1930 г., п. 395):**

а) Праграма будаўніцтва, выконваемага Белкалгасбудам, праходзіць зусім нездавальняюча, дзякуючы нізкай працдысцыпліне працаўнікоў Белкалгасбуду, грамадзкасьць вакол будаўніцтва Белкалгасбуду слаба мабілізавана, а таксама дапамога з боку Белкалгасцэнтру, Белсельтрэсту, Сьвінаводтрэсту будаўніцтву, выконваемаму Белкалгасбудам, слабая;

б) На будаўніцтве Белкалгасбуду па калгаснаму сэктару зусім ня выконваюцца калгасамі дырэктывы аб прадастаўленьні рабочай сілы, транспарту і мабілізацыі ўласных сродкаў на будаўніцтва;

в) Нездавальняючая з боку кіраўніцтва БКБ арганізацыя працы ў часьці расстаноўкі тэхнічных сіл, а таксама падвышэньня працоўнай дысцыпліны і адказнасьці за даручаемую працаўніку працу;

г) Маюцца выпадкі, калі работадаўцы тлумачаць арганізацыю Белкалгасбуду як магчымасьць адмаўленьня ад падрыхтоўкі да будаўніцтва самастойна (нарыхтоўка будаўнічых матарыялаў), чакаючы арганізацыі працы Белкалгасбудам (Белсельтрэст, Белкалгасцэнтр, Белмалжывёлсаюз, Белпаляводсаюз);

д) Зусім неўрэгулявана да гэтага часу снабжэньне рабочых, занятых на будаўніцтве, прадуктамі спажываньня, а таксама слабая ініцыятыва з боку работнікаў Белкалгасбуду на месцы ў сэнсе прыцягненьня да гэтага пытаньня ўвагі грамадзкасьці.

Улічваючы неабходнасьць максімальнага выкананьня праграмы будаўніцтва 1930 г., а таксама падрыхтоўку да будаўніцтва 1931 г., Калегія НКЗ БССР пастанаўляе:

1. Даручыць Белкалгасбуду, Белкалгасцэнтру, Белсельтрэсту і Сьвінаводтрэсту дабіцца ўзмацненьня тэмпаў будаўніцтва, устанавіўшы поўную адказнасьць паасобных працаўнікоў за даручаемую ім работу, канцэнтрыруючы ўвагу і сродкі ўсіх мясцовых арганізацый на ажыцьцяўленьне гэтае задачы.

2. Улічваючы нізкую якасьць працаўнікоў, працуючых у апараце Белкалгасбуду, а таксама і недастатковую іх колькасьць, даручыць БКБ разам з Сэктарам кадраў праверыць склад тэхпэрсаналу, працуючага ў сыстэме зямельных і калгасна-кааперацыйных арганізацый, з мэтай перакідкі часткі іх на працу для ўзмацненьня Белкалгасбуду.

3. Даручыць тав. Каплану скласьці дакладную запіску ў НКЗ Саюзу, СНК і НКПрацы БССР аб мабілізацыі інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў для ўзмацненьня апарату Белкалгасбуду, а таксама паставіць пытаньне перад СНК БССР аб адтэрмінаваньні мабілізаваных на працу інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў з іншых ведамстваў да 15 сьнежня.

4. Абавязаць Белкалгасцэнтр, Белсельтрэст, Сьвіноводтрэст забясьпечыць будаўніцтва, якое праводзіцца Белкалгасбудам, перавозачнымі сродкамі, а таксама сваечасовым падвозам будаўнічых матарыялаў, паставіўшы пытаньне перад НК Працы аб забясьпечаньні работ, што выконваюцца Белкалгасбудам, кваліфікаванай рабочай сілай.

5. Абавязаць Белсельтрэст, Белкалгасцэнтр, Сьвінаводтрэст і ўсю калгасна-кааперацыйную сыстэму ўжыць захады да выкананьня абавязацельстваў, прынятых на сябе дагаворамі з Белкалгасбудам, даручыўшы тав. Каплану ў тых выпадках, калі з боку апошніх парушаюцца абавязацельствы, зараз-жа скасоўваць дагавары і ставіць пытаньне у НК Земляробства аб прыцягненьні вінаватых, парушыўшых дагавор, да адказнасьці.

6. Устанавіць, як правіла, што ў 1931 г. Белкалгасбудам выконваюцца наступныя работы: будаўніцтва МТС, індустрыяльна-тэхнічных прадпрыемстваў, ільна-заводаў, маслазаводаў, плода-овашчных заводаў, будаўніцтва сьвінаводна-прамысловых, малочна-масляна-прамысловых і скатаводных саўгасаў, пры чым будаўніцтва выконваецца толькі ў тых выпадках, калі агульная каштоўнасьць будаўніцтва складае ня менш 50.000 р., усё іншае будаўніцтва праводзіцца непасрэдна гаспадарчымі аб'яднаньнямі і калгасна-кааперацыйнай сыстэмай.

7. Абавязаць Белкалгасбуд, Плянава-Эканамічны Сэктар і Сэктар Будаўніцтва НКЗ падаць на разгляд Калегіі да 15 кастрычніка праграму будаўніцтва 1931 г., прапанаваўшы Белсельтрэсту, Сьвінаводтрэсту

і Белкалгасцэнтру даць аб'екты будаўніцтва, па якіх будаўніцтва будзе выконвацца Белкалгасбудам, апошняму не пазьней 10-га кастрычніка.

8. Даручыць Белкалгасбуду не пазьней 15 лістапада вызначыць а) месца для будаўніцтва саматужных цагелянь у мясцох будаўніцтва буйных індустрыяльных прадпрыемстваў і машына-трактарных станцый, б) арганізаваць майстэрні па вырабу масавых будаўнічых дэталяй у Віцебску, Менску, Бабруйску, Гомелі, Воршы, прычым у майстэрнях арганізаваць выраб будаўнічых дэталяў жалезных, драўляных, а таксама забясьпечыць выпрацоўку ў мясцох буйнага будаўніцтва кровельнага будаўнічага матарыялу: чарапіцы, гонту, драні.

9. Даручыць Белкалгасбуду пры распрацоўцы тыпавых праектаў выходзіць з неабходнасьці спрашчэньня тыпаў будаўніцтва, патаненьня іх каштоўнасьці, выходзячы з умоў паасобных раёнаў і максымальнага выкарыстаньня мясцовых будаўнічых матарыялаў.

10. Даручыць Белкалгасбуду разам з Белкалгасцэнтрам распрацаваць на працягу двухдэкаднага тэрміну палажэньне пра тэхнічную дапамогу калгасам з боку Белкалгасбуду і ўнесьці на зацьверджаньне НК Земляробства.

11. Даручыць Сэктару кадраў і Белкалгасбуду не пазьней 1 лістапада адчыніць курсы дзесятнікаў, выходзячы з неабходнасьці забясьпечаньня ўсіх аб'ектаў будаўніцтва, у колькасьці ня менш 200 чал. і для гэтага прасіць СНК БССР адпусьціць на арганізацыю гэтых курсаў патрэбныя сродкі.

12. Лічыць патрэбным забясьпечаньне работ, выконваемых Белкалгасбудам, аўтатранспартам як для перавозкі грузаў, а таксама для раз'езду адміністрацыйна-тэхнічнага персаналу, даручыўшы тав. Каплану скласьці дакладную запіску ў НКЗ Саюзу ССР.

13. Лічыць патрэбным, каб дэфіцытныя будаўнічыя матарыялы вызначаліся ў адпаведнасьці з аб'ёмам будаўніцтва, якое будзе ажыцьцяўляцца Белкалгасбудам у 1931 г., і перадаваліся непасрэдна Белкалгасбуду, які павінен іх разьмяркоўваць па паасобных аб'ектах будаўніцтва ў залежнасьці ад чарговасьці выконваемых будаўнічых работ.

14. Прасіць СНК БССР дазволіць НКЗ правесьці рэарганізацыю Белкалгасбуду з Акцыянэрнага Т-ва ў Трэст сельскага будаўніцтва, даручыўшы т. Каплану зараз-жа ўвязаць практычную працу з працай Усесаюзнага Сельска-Гаспадарчага Будаўнічага Трэсту.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 178. Пра ўніфікацыю аплаты працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў.

Для зьнішчэньня рознастойнасьці ў аплаце працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў і для ўстанаўленьня адзінай формы аплаты працы на лесанарыхтоўках па БССР Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Увесьці на тэрыторыі БССР з 15 кастрычніка 1930 г. адзіныя расцэнкі аплаты працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў паводле наступнай табліцы:

| №№ п. ч. | НАЗВА МАТАРЫЯЛАЎ | Адзінка абмеру | Норма выпрацоўкі ў дзень. | Плата за адзінку абмеру | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | руб. | кап. |
| 1 | Бярвеньні сасновыя | к. м. | 5,0 | — | 36 |
| 2 | „ яловыя | „ | 4,5 | — | 40 |
| 3 | „ альховыя | „ | 5,0 | — | 36 |
| 4 | „ ясянёв., бэраст., дуб., граб. і клянов. | „ | 3,0 | — | 70 |
| 5 | „ ліпав., бярозав., асінав. | „ | 4,0 | — | 50 |
| 6 | Блокі з акоркай | „ | 3,0 | 1 | 00 |
| 7 | Ягіпецкія бэлькі | паг. м. | 17,0 | — | 20 |
| 8 | Дубов. фанэр. кражы | к. м. | 2,0 | 1 | 75 |
| 9 | Ленінградзк. безгатунк. | „ | 2,5 | 1 | 40 |
| 10 | Мэмельская клёпка | капа | 1,12 | 45 | 00 |
| 11 | Біндэрная клёпка | тона | 0,15 | 21 | 00 |
| 12 | Асінав. клёпка. з разрах. 1 р. 20 к. за вярш. | штук | 150 | — | 02 |
| 13 | Дубов. кл. з разрах. 1 р. 50 к. вяршок | „ | 125 | — | 02,5 |
| 14 | Сьліпэры | „ | 4,0 | — | 75 |
| 15 | Швэлі дубовыя | „ | 5,0 | — | 65 |
| 16 | Шпалы хваёв. бруск. 1 тыпу | „ | 10,0 | — | 30 |
| 17 | Таксама, 3 тыпу | „ | 10,0 | — | 25 |
| 18 | Таксама, 5 тыпу | „ | 10,0 | — | 23 |
| 19 | Шпалы буд. 1 тыпу | „ | 7,0 | — | 40 |
| 20 | Таксама, 3 тыпу | „ | 7,0 | — | 37 |
| 21 | Таксама, 5 тыпу | „ | 7,0 | — | 32 |
| 22 | Таксама, пласьціны хв. | „ | 8,0 | — | 40 |
| 23 | Таксама, дубовыя | „ | 6,0 | — | 60 |
| 24 | Дошкі шпальныя, хваёв. | „ | | — | 25 |
| 25 | Таксама дубовыя | „ | | | 35 |
| 26 | Швэлі хваёвыя | „ | 6,0 | — | 55 |
| 27 | Падтаварнік з акоркай | к. м. | 2,25 | — | 90 |
| 28 | Стойкі і пропсы з тапорнай акоркай | раўм. | 3,0 | — | 75 |
| 29 | Сьпіца ясянёвая | штук | 200 | — | 01,8 |
| 30 | Сьпіца дубовая | „ | 150 | — | 0,2 |
| 31 | Гонт | капа | 9,0 | — | 50 |

| №№ п. ч. | НАЗВА МАТАРЫЯЛАУ | Адзінка абмеру | Норма выпрацоўкі ў дзень | Плата за адзінку абмеру | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | руб. | кап. |
| 32 | Драньз разрах. 3 арш. | капа | 8,0 | 21 | 40 |
| 33 | Абычайка | „ | 1,0 | 2 | 10 |
| 34 | Дручкі з акоркай | к. м. | 2,0 | 1 | 30 |
| 35 | Бачкарка (кругляк) | раўм. | 3,0 | — | 75 |
| 36 | Дровы 1 м. мяккія | к. м. | 4,0 | — | 50 |
| 37 | Дровы бярозавыя 1 м. | „ | 3,5 | — | 63 |
| 38 | Дровы цьвёрдыя 1 м. | „ | 3,0 | — | 70 |
| 39 | Дровы паўмэтр. мяккія | „ | 2,75 | — | 70 |
| 40 | „ цьвёрдыя | „ | 2,50 | — | 80 |
| 41 | Брускі рудатрэст | штук | 50 | — | 09 |
| 42 | Балансы без акоркі | раўм. | 3,0 | — | 75 |
| 43 | Балансы з акоркай пад экспарт | „ | 1,5 | 1 | 50 |
| 44 | Дышлы | штук | 15 | — | 30 |
| 45 | Аглоблі | „ | 18 | — | 17 |
| 46 | Разводкі | „ | 15 | — | 15 |
| 47 | Перапрацоўка стояк на кароткія разьмеры | к. м. | 5,0 | — | 40 |
| 48 | Тэлеграфныя слупы, хв. | „ | як бярвеньні хваёвых парод | | |
| 49 | Слупы дубовыя | „ | як безгатунковыя кражы | | |
| 50 | Кляновыя палкі | камп. | 3 р. | | |
| 51 | Навосьнікі ясянёвыя | штук | 25 | — | 12 |
| 52 | Лапаты | „ | — | — | 20 |

2. Усе выдадзеныя раней расцэнкі за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў АВК на мясцох касуюцца.

3. Усім гаспадарчым арганізацыям прапануецца правесьці ў жыцьцё новыя расцэнкі з дня выданьня і апублікаваньня гэтай пастановы ў друку. Адказнасьць за правядзеньне гэтага ўскладаецца на кіраўнікоў трэстаў, аб'яднаньняў і на кіраўнікоў работ.

4. Усе іншыя расцэнкі на асартымэнты, непрадугледжаныя гэтай пастановай, распрацоўваюцца РКК на мясцох працы, або раённымі гарадзкімі інспэктарамі працы. Пры распрацоўцы расцэнак прытрымліваецца прынцыпу расцэнак, паказаных у гэтай пастанове.

5. На гарадзкіх і раённых інспэктараў працы ўскладаецца кантроль за ажыцьцяўленьнем гэтае пастановы.

6. За парушэньне гэтае пастановы гаспадарчыя арганізацыі прыцягваюцца да судовай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава**.

Ст. Інспэктар сэзонных галін народнай гасп. НКП БССР **З. Іофэ**.

Узгоднена з ЦП Саюзу Дрэваапрацоўшчыкаў—**Эльпэрын**.

15 кастрычніка 1930 г.
№ 52.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР.

**Паст. 179. Пра абвяшчэньне пастановы НКП СССР за 30 верасьня 1930 г. № 299 „Пра працяжнасьць рабочага дня служачых, занятых у апараце органаў лясной прамысловасьці".**

НК Працы БССР пастанаўляе абвясьціць да ведама і выкананьня ў Бюлятэні СНК БССР наступную пастанову НКП СССР за 30 верасьня 1930 г. № 299. „Пра працяжнасьць рабочага дня служачых, занятых у апараце органаў лясной прамысловасьці":

„НКП СССР пастанавіў:

1. Працяжнасьць рабочага дня для служачых, занятых у апараце ўсіх органаў лясной прамысловасьці, устанаўляецца:

а) сем гадзін (уключаючы паўгадзінны перарыў)—у пераведзяных на бесперапынны тыдзень і шэсьць з паловай гадзін (уключаючы паўгадзінны перарыў) у непераведзяных на бесперапынны тыдзень агульнасаюзных, рэспубліканскіх, краявых, валасных і аналёгічных апаратах кіраўніцтваў лесазагатоўчых органаў, у веданьні якіх знаходзяцца леспрамгасы;

б) восем гадзін (бяз зьмены зарплаты, устаноўленай калдагаворам) у апаратах усіх леспрамгасаў і вучлесгасаў.

Пры гэтым апараты, пераведзяныя на пяці і шасьцідзённы прарыўны тыдзень, прыроўніваюцца да апаратаў, пераведзяных на бесьперапынны тыдзень.

2. Спыніць, у адносінах паказаных у арт. 1 работнікаў, дзейнасьць пастановы НКП СССР за 19-XI-1927 г. № 368 „Аб рабочым дне служачых" („Изв. НКТ СССР" 1927 г.—№ 51, 1928 г.—№ 17 і 1930 г.—№ 5).

Народны Камісар Працы СССР Ціхон.
Член Калегіі НКП СССР і Нач. Кіраўн.
Арг. і Аздараўл. Умоў Працы НКП
СССР Серына".

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

17 кастрычніка 1930 г.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

**Паст. 180. Пра выканальныя дзеяньні органаў міліцыі.**

*Усім начальнікам гарадзкіх і раённых адміністрацыйных аддзелаў, гаоадзкім і вучастковым пракурорам.*

У зьвязку з паступаючымі з месц запытаньнямі аб парадку выкананьня органамі міліцыі судовых пастаноў і пастаноў адпаведных органаў аб спагнаньні даўгоў у адміністрацыйным парадку, народныя камісарыяты Юстыцыі і Унутраных Спраў БССР прапануюць начальнікам гарадзкіх і раённых адміністрацыйных аддзелаў, а таксама гарадзкім і вучастковым пракурорам кіравацца наступнымі паказаньнямі:

1. Органы міліцыі робяць выканальныя дзеяньні:

а) альбо па выкананьні пастаноў і загадаў судовых устаноў,

б) альбо па выкананьні загадаў адпаведных органаў аб спагнаньні даўгоў у адміністрацыйным парадку.

2. Пры выкананьні судовых пастаноў па грамадзянскіх справах для органаў міліцыі, як і для судовых выканаўцаў, абавязковы правілы часткі пятай Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу (арт. арт. 300—361) і выданых у разьвіцьцё гэтых правіл інструкцый, абежнікаў і тлумачэньняў. У паасобку, між іншым, трэба кіравацца:

а) інструкцыяй НКЮ, НКУС і НКФ БССР аб парадку выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах („Рэвалюцыйная Законнасьць" 1928 г. № 1-2).

б) Інструкцыйным лістом НКЮ БССР за 25/II 1930 г. Пры ўжываньні правіл Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу трэба карыстацца ГПК выданьня 1930 г., улічваючы ўнесеныя пасьля таго у ГПК зьмены і дапаўненьні (Зб. Зак. БССР 1930 г. № 21, паст. 135; № 22, паст. 149 і № 35, паст. 224).

3. Калі на органы міліцыі ўскладзена спагнаньне на падставе загадаў установаў і арганізацый, якім дадзена права спаганяць належныя ім сумы ў адміністрацыйным (бясспрэчным) парадку, органы міліцыі робяць спагнаньне паводле правілаў Палажэньня пра спагнаньне падаткаў (З. З. Саюзу ССР 1925 г. № 70, арт. 518; 1929 г. № 25, арт. 216; 1929 г. № 15, арт. 119; 1929 г. № 71, арт. 672; 1928 г. № 2, арт. 10; 1927 г. № 18, арт. 199; 1930 г. № 32, арт. 349).

4. Калі спагнаньне трэба рабіць з заработнае платы рабочага і служачага альбо з заработку члена сельска-гаспадарчай камуны ці сельска-гаспадарчай арцелі, то суд або ўстанова альбо арганізацыя, пастанавіўшая аб спагнаньні доўгу ў адміністрацыйным (бяз суда) парадку, даручае выкананьне ня органам міліцыі, а адміністрацыі (загадчыку крэдытамі) той установы, прадпрыемства або арганізацыі, у якой адказчык працуе (у сельска-гаспадарчых арцелях і камунах такое даручэньне даецца старшыні праўленьня каляктыву). Адміністрацыя (а не міліцыя) у гэтым выпадку робіць спагнаньне паводле правілаў разьдзелу XXXIV Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу (гл. таксама арт. 3 пастановы НКЮ, НКУС і НКФ за 15/VIII-30 г. № 33 „Пра органы, якім павінна даручацца выкананьне пастаноў аб спагнаньні даўгоў непадатковага характару ў адміністрацыйным парадку").

Такім чынам і пры спагнаньнях на падставе выданых судом выканальных лістоў і загадаў і пры спагнаньнях у адміністрацыйным парадку **на міліцыю ня можа быць ускладзена спагнаньне з заработнай платы рабочага або служачага альбо з узнагароды члена калгасу.**

6. Калі трэба рабіць спагнаньне з маемасьці членаў сельска-гаспадарчых камун ці арцеляй, то на абагуленую маемасьць, як маемасьць калгасу, а не калгасьніка, ні ў якім разе нельга зварочваць спагнаньня. Спагнаньне-ж з неабагуленай маемасьці калгасьніка робіцца з захаваньнем правіл:

а) арт. арт. 316, 316-а-б ГПК, калі спагнаньне робіцца на падставе выдадзеных судом выканальных лістоў ці судовых загадаў і

б) артыкулам 17 Палажэньня пра спагнаньне падаткаў (З. З. Саюзу СССР 1929 г. № 71, арт. 672), калі спагнаньне робіцца ў адміністрацыйным (бясспрэчным) парадку.

7. Калі ў органа міліцыі маюцца для выкананьня пастановы адпаведных органаў аб спагнаньні з уступіўшых у калгасы грамадзян запазычнасьці па землеўпарадкаваньні і штрафаў за нарушэньне законаў аб падатках і іншых абавязковых плацяжох, то гэтыя пастановы ня выконваюцца і зьвяртаюцца выдаўшым іх органам для зьняцьця нядоімак на падставе арт. арт. 6 і 7 пастановы ЦВК і СНК СССР за 2 красавіка 1930 г. „Пра новыя льготы для калгасаў і іх членаў"

(З. З. Саюзу ССР 1930 г. № 21, арт. 230). Гэтае паказаньне не адносіцца да выпадкаў, калі ў судовым альбо адміністрацыйным парадку накладзен штраф на селяніна, хоць-бы ён і ўступіў потым у калгас, за якое-небудзь злачынства, напрыклад лесапарубку, выганку самагону і г. д. (абежны ліст НКЮ акруговым судам і пракурорам за 8/IV-1930 г. № 120).

8. Прымусовыя працы, да якіх прыгавораны члены калгасаў судовымі і адміністрацыйнымі органамі, павінны адбывацца на месцы ў калгасах.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Н. Міхайлаў.**

12 кастрычніка 1930 г. № 2--41.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### Паст. 181. Пра адказнасьць Дзяржстраху па маемасьці, падлягаючай абавязковаму акладнаму страхаваньню ў калгасах, якія арганізуюцца ў 1930-1931 годзе.

На падставе арт. 6 разьдзелу „В“ пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 21/VI 1930 г. „Пра абавязковае акладнае страхаваньне ў сельскіх мясцовасьцях на 1930-1931 г.“ (З. З. БССР 1930 г. № 26, паст. 172), гэтым устанаўляецца наступны парадак пачатку адказнасьці Дзяржстраху па маемасьці калгасаў, якія арганізуюцца ў 1930-1931 г.:

1. Момантам узьнікненьня адказнасьці Дзяржстраху па падлягаючай абавязковаму страхаваньню маемасьці ўноў арганізуючыхся калгасаў лічыць час фактычнага абагуленьня членамі гэтых калгасаў сваёй маемасьці, што ўстанаўляецца дакумэнтальнымі данымі (прыймовымі актамі, пастановамі агульных сходаў членаў калгасаў, інвэнтарнымі сьпісамі і г. д.

2. У працягу месячнага тэрміну з дня арганізацыі калгасу, праўленьне яго абавязана падаць райвыканкому заяву аб абагуленай маемасьці з паказаньнем яе віду, колькасьці і вартасьці.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

14 кастрычніка 1930 г. г. Менск.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР.

### Паст. 182. Пра парадак ужываньня зацьверджанага ЦВК і СНК БССР 27 лютага 1930 г. (З. З. БССР 1930 г. № 14, паст. 98) „Палажэньня аб дзяржаўным забясьпечаньні сем'яў асоб, прызваных у Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію, інвалідаў вайны, інвалідаў былых чырвоных партызанскіх атрадаў і чырвонай гвардзіі, асоб, якія страцілі працаздольнасьць у выніку праходжаньня вайсковай службы, заняткаў па ваенізацыі насельніцтва, актыўнага змаганьня з контррэвалюцыяй, дапамогі адпаведным органам у змаганьні са злачынствамі і навальнымі бядотамі, у выніку выкананьня работ для Чырвонай Арміі, асоб, якія маюць выключныя заслугі перад Рэспублікай, асоб мэдыцынскага і вэтэрынарнага пэрсаналу, якія страцілі працаздольнасьць у зьвязку з працай па змаганьню з чумой, халерай, сібірскай язвай, сапам і інш., асоб, ня здольных да працы, і іх сем'яў.

#### I. Агульная ч стка.

1. Права на дзяржаўнае забясьпечаньне паводле гэтай інструкцыі маюць наступныя катэгорыі асоб, не пазбаўленых выбарнага права:

а) члены сем'яў асоб, прызваных на абавязковую вайсковую службу ў кадравыя часьці і пераменны склад тэрытарыяльных часьцей Чырвонай Арміі;

б) інваліды Грамадзянскай вайны, інваліды былых чырвоных партызанскіх атрадаў і Чырвонай гвардзіі, а таксама інваліды імпэрыялістычнай вайны радавога і малодшага каманднага складу;

в) асобы, якія страцілі працаздольнасьць у выніку праходжаньня вайсковай службы, як у кадравых, так і ў тэрытарыяльных часьцях Чырвонай Арміі, альбо заняткаў па ваенізацыі насельніцтва;

г) асобы, якія страцілі працаздольнасьць у выніку актыўнага змаганьня з контррэвалюцыяй;

д) асобы, якія страцілі працаздольнасьць у выніку дапамогі адпаведным органам у змаганьні са злачынствамі і навальнымі бядотамі;

е) асобы, якія страцілі працаздольнасьць у зьвязку з выкананьнем работ для Чырвонай Арміі;

ж) непрацаздольныя члены асоб, пералічаных у пунктах „б", „в", „г", „д", „е" гэтага артыкулу;

з) непрацаздольныя асобы і іх сем'і, якія маюць выключныя заслугі перад Рэспублікай у галіне рэвалюцыйнай дзейнасьці, прафэсіянальнага руху, а таксама ў галіне навукі і тэхнікі, мастацтва і дзяржаўнай службы, і асобы, якія выявілі выключную адданасьць Савецкай Уладзе, знаходзячыхся ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, у былых чырвоных партызанскіх атрадах і Чырвонай гвардзіі;

і) асобы, узнагароджаныя ардэнамі баявога або працоўнага Чырвонага Сьцягу і ордэнам Леніна;

к) асобы мэдыцынскага і вэтэрынарнага пэрсаналу, якія страцілі працаздольнасьць у зьвязку з працаю па змаганьню з чумой, халерай, сібірскай язвай, сапам і непрацаздольныя іх сем'і;

л) іншыя непрацаздольныя асобы, ня маючыя сродкаў для існаваньня.

2. Асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым парадку псыхічна-хворымі, таксама маюць права на дзяржаўнае забясьпечаньне, калі яны да прызнаньня іх псыхічна-хворымі мелі выбарныя правы.

## II. Дзяржаўнае забясьпечаньне сем'яў асоб, прызваных у Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію.

3. Права на дзяржаўнае забясьпечаньне маюць наступныя члены сем'яў асоб, прызваных у Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію, якія карыстаюцца ільготамі па сямейна-маемаснаму становішчу паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 8 жніўня 1928 г. аб абавязковай вайсковай службе (З. З. СССР 1928 г. № 51, арт. 449) і пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 верасьня 1929 г. (З. З. СССР 1929 г., № 59, арт. 530), калі члены сям'і прызванага знаходзіліся да прызыву на яго ўтрыманьні і не забясьпечваюцца па лініі органаў сацыяльнага страхаваньня, або іншых органаў;

а) дзеці, браты і сёстры да 16 год;

б) дзеці, браты і сёстры, залічаныя па страце працаздольнасьці ў адну з першых трох груп інваліднасьці, калі яны страцілі працаздольнасьць да 16 год;

в) непрацаздольныя бацькі і супруг, залічаныя ў адну з першых трох груп інваліднасьці;

г) бацькі і супруг (нават і працаздольныя), калі яны маюць на сваім утрыманьні дзяцей і сясьцёр да 8-гадовага ўзросту прызванага ў Чырвоную Армію;

4. Калі пасьля прызыву ў Чырвоную Армію асоб, якія не карысталіся ільготамі па сямейна-маемаснаму становішчу, адбудуцца зьмены ў сямейна-маемасным становішчы, што дае права на льготу, дык пералічаныя вышэй ў п. п. „а“, „б“, „в“, „г“ арт. 3 гэтага разьдзелу члены сям'і такога вайскоўца набываюць права на дзяржаўнае забясьпечаньне.

5. Асобам, якія маюць права на дзяржаўнае забясьпечаньне ў парадку гэтага разьдзелу, выдаецца сталая грашовая дапамога, пры чым, гэтая дапамога выдаецца за квартал наперад і выдаецца ад дня прызыву на працягу ўсяго часу праходжаньня вайскоўцамі тэрміновай (бесперапыннай) службы ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і, апроч таго, на працягу 2-х месяцаў ад дня звальненьня з Чырвонай Арміі ў доўга-тэрміновы водпуск.

> Увага. Такімі самымі правамі на дзяржаўнае забяспечаньне карыстаюцца і сем'і вайскоўцаў малодшага начальніцкага складу тэрміновай (бесперапыннай) службы ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якія пры прызыве ў шэрагі Чырвонай Арміі карысталіся льготамі, альбо атрымалі іх у час самой службы ў сувязі са зьменай сямейна-маемаснага становішча.
>
> Гэтым асобам дапамога выдаецца з дня зьмены ў сямейным становішчы.

6. Члены сем'яў вайскоўцаў-льготнікаў пераменнага складу тэрытарыяльных частак Чырвонай Арміі атрымоўваюць дапамогу на працягу 3-х месячнага навучаньня гэтых вайскоўцаў у першы год іх службы.

7. Разьмеры дапамогі асобам, пералічаным у гэтым разьдзеле, вызначаюцца на падставе ставак, зацьверджаных Саветам Народных Камісараў БССР.

8. Па жаданьню асоб, якія маюць права на дзяржаўнае забясьпечаньне ў парадку гэтага разьдзелу, грашовая дапамога ў асобных выпадках можа быць заменена на тэрмін, паказаны ў арт. арт. 5 і 6 гэтага разьдзелу, зьмяшчэньнем іх у інвалідныя або дзіцячыя дамы, больніцы хронікаў пры ўмове, калі ў гэтых установах ёсьць вольныя месцы, для чаго гарадзкія саветы або раённыя выканаўчыя камітэты ўзгадняюць гэта пытаньне з адпаведнымі наркаматамі, а пры наяўнасьці месц у паказаных вышэй установах гарадзкога альбо раённага значэньня пытаньне вырашаецца на месцы.

9. Асобы, пералічаныя ў гэтым разьдзеле, карыстаюцца ільготамі паводле існуючых законаў, а таксама карыстаюцца бясплатнай мэдыцынскай дапамогай паводле пастановы СНК СССР і Савету Працы і Абароны (Кодэкс пра льготы для вайскоўцаў і вайскова-павінных Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі і іх сем'яў—З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 259, разьдзел 7, § 102).

10. Сем'і вайскоўцаў, якія дэзэртыравалі з Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, і вайскоўцаў, якія адбываюць пакараньне ў папраўна-працоўных дамох за зробленыя імі злачынствы, пазбаўляюцца права на дзяржаўнае забясьпечаньне.

**III. Дзяржаўнае забясьпечаньне інвалідаў вайны, інвалідаў былых Чырвоных партызанскіх атрадаў і Чырвонай гвардзіі, асоб, якія страцілі працаздольнасьць у выніку праходжаньня вайсковай службы альбо заняткаў па ваенізацыі насельніцтва, актыўнага змаганьня з контррэвалюцыяй, аказаньня дапамогі адпаведным органам у змаганьні са злачынствамі і навальнымі бядотамі, а таксама асоб, якія страцілі працаздольнасьць у зьвязку з выкананьнем работ для Чырвонай Арміі.**

11. Права на дзяржаўнае забясьпечаньне ў парадку гэтага разьдзелу маюць: інваліды грамадзянскай вайны, інваліды былых чырвоных партызанскіх атрадаў і Чырвонай гвардзіі, інваліды імпэрыялістычнай вайны, радавога і малодшага каманднага складу, асобы, якія страцілі працаздольнасьць у выніку праходжаньня вайсковай службы ў Чырвонай Арміі, альбо заняткаў па ваенізацыі насельніцтва, у выніку актыўнага змаганьня з контррэвалюцыяй, аказаньня дапамогі адпаведным органам у барацьбе са злачынствамі і навальнымі бядотамі, а таксама асобамі, якія страцілі працаздольнасьць у зьвязку з выкананьнем работ для Чырвонай Арміі.

12. Дзяржаўнае забясьпечаньне выдаецца ў відзе:

а) пэнсій і дапамог,

б) зьмяшчэньня ў інвалідныя дамы і ўстановы аховы здароўя,

в) зьмяшчэньня дзяцей у дзіцячыя дамы,

г) пасылкі на працу і

д) дачы ільгот.

13. Дзяржаўнае забясьпечаньне прызначаецца ў залежнасьці:

а) ад ступені страты працаздольнасьці і працы, якую могуць выконваць інваліды,

б) сямейна-маемаснага становішча.

14. Усе інваліды ў залежнасьці ад ступені працаздольнасьці падзяляюцца на наступныя групы:

а) да першай групы інваліднасьці належаць інваліды, якія ня толькі ня могуць працаваць, але ня могуць абыйсьціся без дапамогі іншых асоб, для задавальненьня сваіх жыцьцёвых патрэб;

б) да другой групы належаць інваліды, якія ня здольны працаваць для заработку, але могуць абыйсьціся бяз догляду іншых асоб;

в) да трэцяй групы належаць інваліды, якія прымушаны адмовіцца ад сваёй звычайнай прафэсіі і могуць здабываць сродкі для пражыцьця толькі лёгкай непастаяннай працай;

г) да чацьвертай групы належаць інваліды, якія прымушаны зьмяніць сваю прафэсію на прафэсію ніжэйшай кваліфікацыі.

15. Пэнсія выдаецца толькі асобам, якія належаць па страце працаздольнасьці да аднае з першых трох груп інваліднасьці.

16. Разьмер пэнсіі вызначаецца на падставе ставак, зацьверджаных СНК БССР.

17. Інваліды, якія атрымліваюць пэнсію, маюць права на атрыманьне дадатковай дапамогі на нараджэньне і кармленьне дзяцей, на пахаваньне памёршых членаў сям'і, а таксама маюць права на надбаўку для непрацаздольных членаў сям'і ў межах ставак, зацьверджаных СНК БССР.

18. Інваліды 1-ай і 2-ой груп інваліднасьці, па іх жаданьні, замест выдачы ім пэнсіі, могуць зьмяшчацца ў інвалідныя дамы і ўстановы аховы здароўя. Парадак зьмяшчэньня такіх асоб паказан у арт. 8 другога разьдзелу гэтай інструкцыі.

19. Пры вызначэньні пэнсіі інвалідам, пералічаным ў п. 11 гэтага разьдзелу і аднесяным па страце працаздольнасьці да першых трох

груп інваліднасьці, пэнсія ў першую чаргу прызначаецца тым інвалідам, якія ня маюць рук альбо ног.

20. Інваліды грамадзянскай вайны, чырвоных партызанскіх атрадаў, Чырвонай гвардзіі і іншыя асобы, пералічаныя ў п. 11 гэтага разьдзелу, пры вызначэньні пэнсіі маюць пераважнае права на яе атрыманьне перад інвалідамі імпэрыялістычнай вайны.

21. Тыя інваліды вайны, якія жывуць не на працоўныя даходы і карыстаюцца рабочай сілай па найму, права на пэнсію ня маюць, незалежна ад таго, што яны па страце сваёй працаздольнасьці аднесяны да аднэй з першых трох груп інваліднасьці.

22. Інвалідам першых трох груп інваліднасьці, якія жывуць у гарадох альбо мястэчках, выплата пэнсіі прыпыняецца толькі ў тым выпадку, калі іх рэгулярны працоўны заработак у м-ц перавышае 40 руб.

23. Інвалідам першых трох груп інваліднасьці, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях і маюць уласную сельскую гаспадарку, пэнсія вызначаецца ў залежнасьці ад гадовага прыбытку яго гаспадаркі, а іменна:

а) поўная пэнсія выдаецца ў тым выпадку, калі гаспадарка цалкам вызвалена ад сельска-гаспадарчага падатку;

б) палова пэнсіі даецца тады, калі абкладаемы прыбытак аднаго члена сям'і не перавышае 65 руб. у год, а прыбытак гаспадаркі з 4-мя і больш членамі сям'і не перавышае 350 руб. у год, і калі гаспадарка карыстаецца льготамі па сельска-гаспадарчаму падатку.

Увага. 1. За паказанымі ў гэтым разьдзеле асобамі пэнсія захоўваецца і тады, калі яны ўступілі ў калгасы; пэнсія ім выдаецца на рукі ў тым разьмеры, у якім яна была вызначана да ўступленьня ў калгас.

2. Асобы, пералічаныя ў гэтым разьдзеле і аднесяныя да першых трох груп інваліднасьці, знаходзячыяся ў калгасах, таксама маюць права на атрыманьне пэнсіі, калі да гэтага часу апошняя ня была ім прызначана.

24. Асобы, паказаныя ў § 23, карыстаюцца льготамі па падатках, па аплаце камунальных паслуг і іншымі льготамі, паводле існуючых законаў, а таксама мэдычнай дапамогай.

25. Інваліды грамадзянскай вайны карыстаюцца мэдычнай дапамогай на аднолькавых умовах з застрахаванымі, паводле пастановы СНК СССР за 15 красавіка 1929 г. (З. З. СССР 1929 г. № 26, арт. 242).

26. Інваліды, якія належаць па страце працаздольнасьці да 3-яй, альбо 4-ай групы інваліднасьці, маюць права на пасылку іх на працу ў існуючыя каперацыйныя аб'яднаньні інвалідаў.

Увага. У асобных выпадках, па асабоваму жаданьню, могуць быць накіраваны ў сыстэму капярацыі інвалідаў і інваліды 1-й і 2-й груп інваліднасьці.

27. З асоб, якія атрымліваюць пэнсію, альбо маюць права на атрыманьне пэнсіі з ліку аднесяных па страце працаздольнасьці да аднае з першых трох груп інваліднасьці, гарадзкімі саветамі альбо раённымі выканаўчымі камітэтамі пры пасылцы інвалідаў на працу ў каперацыйныя аб'яднаньні інвалідаў, уносіцца ў лік паю капіталізаваная пэнсія ў разьмеры 6—12 месячнай сумы пэнсіі, якую атрымлівалі альбо мелі права атрымліваць гэтыя асобы.

28. Асобы, аднесяныя да 3-яй і 4-ай груп інваліднасьці, маюць права на навучаньне і перанавучаньне ў мэтах прыстасаваньня іх да працы.

Навучаньне і перанавучаньне гэтых груп інваліднасьці праводзіцца праз сыстэму каперацыйных аб'яднаньняў інвалідаў і праз пасылку ў навучальныя ўстановы. Навучаньне і перанавучаньне праводзіцца за рахунак сродкаў, якія адпускаюцца на гэту мэту раённымі выканаўчымі камітэтамі.

29. Асобы, паказаныя ў гэтым разьдзеле, маюць права бясплатна атрымліваць пратэзы.

Парадак выдачы і тэрміны носкі пратэзаў наступныя:

а) пратэзы атрымліваюцца на падставе хадайніцтва інвалідаў перад органамі сац. забясьпечаньня на мясцох, якія павінны клапаціцца аб сваечасовым забясьпечаньні інвалідаў, устанаўляючы поўны падлік інвалідаў, патрабуючых пратэзаў, а таксама і чарговасьць іх атрыманьня;

б) тэрмін носкі пратэзаў усіх відаў—3 гады, тэрмін носкі ортопэдычнага абутку—1 год пры ўмове сваечасовага рамонту яго.

## IV. Дзяржаўнае забясьпечаньне непрацаздольных членаў сем'яў асоб, пералічаных у разьдзеле III гэтай інструкцыі.

30. У выпадку сьмерці асоб, паказаных у арт. 11 гэтай інструкцыі, альбо калі ў належным парадку будзе ўстаноўлена, што вайсковец забіты на вайне, альбо невядома дзе прапаў, дык пералічаныя ніжэй члены іх сям'і маюць права на дзяржаўнае забясьпечаньне, калі яны знаходзіліся выключна на іх утрыманьні:

а) дзеці, браты і сёстры да 16 гадоў;

б) дзеці, браты і сёстры ад 16 гадоў, залічаныя па страце працаздольнасьці ў адну з першых трох груп інваліднасьці, калі яны страцілі працаздольнасьць да 16 гадоў:

в) непрацаздольныя бацькі і супруг, залічаныя ў адну з першых трох груп інваліднасьці, альбо дасягнуўшыя ўзросту: мужчыны—60 гадоў і жанчыны—55 гадоў;

г) працаздольная ўдава, якая мае на сваім утрыманьні дзяцей да 8-мі гадоў.

31. На асоб, паказаных у гэтым разьдзеле, пашыраюцца правілы, паказаныя ў арт. арт. 19, 21, 22, 23, 24, 26, 27 гэтай інструкцыі.

32. Асобы, паказаныя ў арт. 30 гэтай інструкцыі, якія атрымліваюць пэнсію, маюць права на атрыманьне дапамогі на пахаваньне дзяцей.

33. Разьмер пэнсіі асобам, паказаным у гэтым разьдзеле, вызначаецца ў залежнасьці ад колькасьці непрацаздольных членаў сям'і на падставе ставак, зацьверджаных СНК БССР.

## V. Дзяржаўнае забясьпечаньне іншых непрацаздольных асоб, якія ня маюць сродкаў для свайго існаваньня.

34. Права на дзяржаўнае забясьпечаньне ў парадку гэтага разьдзелу маюць: састарэлыя, зьбяднеўшыя, глуханямыя, сьляпыя, якія належаць да першых трох груп інваліднасьці, калі яны ня маюць сродкаў для існаваньня і ня маюць сваякоў, якія паводле закону павінны іх утрымліваць, альбо калі гэтыя сваякі ня маюць магчымасьці іх утрымліваць.

35. Асобы, паказаныя ў арт. 34 гэтай інструкцыі, забясьпечваюцца наступным парадкам:

а) глуханямыя і сляпыя, дасягнуўшыя паўналецьця, у залежнасьці ад групы інваліднасьці і асыгнаваньня на гэту мэту сродкаў,

карыстаюцца часовай дапамогай у разьмеры ня больш чым 10 руб. у месяц;

Тыя глуханямыя і сьляпыя, якія могуць працаваць, або якіх можна навучыць рамяслу, разьмяркоўваюцца па майстэрнях і арцелях капярацыі інвалідаў;

б) адзінокія—састарэлыя і зьбяднеўшыя, ня маючыя права на сацыяльнае страхаваньне, пры немагчымасьці зьмясьціць іх у дамы састарэлых, карыстаюцца ў залежнасьці ад групы інваліднасьці і асыгнаваньня на гэту мэту сродкаў часовай дапамогай у разьмеры ня больш 10 руб. у м-ц;

в) дэклясаваны элемэнт, ня маючы сродкаў на пражыцьцё,—у выключных выпадках, у залежнасьці ад асыгнаваных сродкаў, карыстаецца часовай дапамогай у разьмеры ня больш 10 руб. у м-ц;

г) састарэлыя сяляне сельскіх мясцовасьцяй, мужчыны і жанчыны, дасягнуўшыя 65-гадоў, у залежнасьці ад асыгнаваньня сродкаў на гэту мэту, карыстаюцца сталай дапамогай, але ня больш 50 руб. у год на адну асобу, пры чым гэта дапамога ў першую чаргу вызначаецца састарэлым сялянам-калгасьнікам.

36. Асобы, паказаныя ў гэтым разьдзеле, карыстаюцца льготамі, паводле існуючых законаў і бясплатнай мэдыцынскай дапамогай, а асобы, якія належаць па страце працаздольнасьці да аднае з першых двух груп інваліднасьці, могуць, па іх жаданьню, зьмяшчацца ў дамы састарэлых.

## VI. Дзяржаўнае забясьпечаньне непрацаздольных асоб і сем'яў асоб, маючых выключныя заслугі перад Рэспублікай.

37. Правам на прызначэньне пэрсанальнай пэнсіі і дапамогі карыстаюцца асобы і сем'і асоб, маючыя выключныя заслугі перад Рэспублікай, выдатныя дзеячы рэвалюцыі, партыйныя работнікі дарэвалюцыйнага часу, асабліва выдатныя быўшыя палітычныя катаржане, асобы, якія займалі ў рэвалюцыйны час галоўныя адказныя, партыйныя, прафэсіянальныя і савецкія пасады, дзеячы навукі, тэхнікі, мастацтва, якія ўнесьлі сваёй працай у адпаведныя галіны каштоўныя ўклады ў агульна-саюзную і беларускую культуру, асобы, якія сваёй працай унесьлі значныя ўдасканаленьні ў дзяржаўны апарат, або значныя палепшаньні ў гаспадарчае, эканамічнае і культурнае жыцьцё дзяржавы, асобы, якія атрымалі ордэны баявога і працоўнага Чырвонага Сьцягу, асобы, якія выявілі выключную самаадданасьць і адданасьць Савецкай Уладзе, знаходзячыся у Чырвонай Арміі і чырвоных партызанскіх атрадах у час грамадзянскай вайны, таксама асобы мэдыцынскага і вэтэрынарнага пэрсаналу, якія страцілі працаздольнасьць у зьвязку з працаю па змаганьню з чумой, халерай, сібірскай язвай і сапам.

38. Пэрсанальныя пэнсіі і дапамога выдаюцца асобам, паказаным у арт. 37 гэтай інструкцыі, калі яны па страце працаздольнасьці належаць да аднае з першых трох груп інваліднасьці.

39. Пэрсанальныя пэнсіі і дапамогі прызначаюцца ў залежнасьці ад заслуг асобы перад Рэспублікай, ад ступені страты працаздольнасьці, маемаснага становішча, колькасьці непрацаздольных і працаздольных членаў сям'і і іншых умоў.

Разьмер пэнсіі ўстанаўляецца ў межах асноўнай тарыфнай стаўкі адказных працаўнікоў БССР.

40. Пэрсанальныя пэнсіі, на падставе арт. 39 гэтай інструкцыі, падзяляюцца на тры разрады:

1) Ад 100 да 130 руб. у м-ц,
2) „ 75 „ 100 „ „
3) „ 50 „ 75 „ „

41. Асобы, якія атрымліваюць пэрсанальную пэнсію, маюць права на пасылку іх на працу ў капэрацыйныя аб'яднаньні інвалідаў.

42. Калі заробак асобы, якая атрымлівае пэрсанальную пэнсію, перавышае 100 проц. разьмеру гэтай пэнсіі, выплата пэнсіі прыпыняецца.

43. У выпадку сьмерці асобы, якая атрымлівала пэрсанальную пэнсію, сям'і памёршага выдаецца:

а) з адным непрацаздольным членам сям'і—$^{1}/_{2}$ пэнсіі,
б) з двумя непрацаздольнымі членамі „ —$^{2}/_{3}$ пэнсіі,
в) з трамя і больш „ „ „ —захоўваецца поўная стаўка пэнсіі, якую атрымлівала памёршая асоба.

44. Апроч пэрсанальных пэнсій, асобам, паказаным у арт. 37 гэтай інструкцыі, у выпадку сьмерці членаў іх сем'яў, могуць быць выданы аднаразовыя дапамогі на лячэньне, на пахаваньне і ў іншых выключных выпадках, але ня звыш месячнай стаўкі пэнсіі ў кожным паасобным выпадку.

45. У выпадку прызначэньня пэрсанальнай пэнсіі асобам, якія павінны атрымліваць пэнсію па лініі органаў сацыяльнага страхаваньня, Галоўнае Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня БССР штомесяц павінна ўносіць Народнаму Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня 50 проц. сумы пэрсанальнай пэнсіі, якая вызначана данай асобе, праз Міжведамсьцьвеную Камісію пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забясьпечаньня.

46. Асобы, паказаныя у гэтым разьдзеле, карыстаюцца льготамі паводле існуючых законаў, а таксама мэдычнай дапамогай на аднолькавых умовах з застрахаванымі і іх сем'ямі.

47. Дзяржаўным забясьпечаньнем паводле гэтай інструкцыі не карыстаюцца асобы, якія забясьпечваюцца, альбо маюць права на забясьпечаньне паводле палажэньня аб дзяржаўным забясьпечаньні кадравога начальніцкага складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі (З. З. СССР 1926 г. № 20, арт. 131), а таксама, асобы, якія атрымліваюць пэрсанальную пэнсію ў іншых саюзных рэспубліках.

48. Пры назначэньні пэнсіі пэрсанальным пэнсіянэрам, альбо іх сем'ям у кожным асобным выпадку ў пратаколе Міжведамсьцьвенай Камісіі паказваецца разьмер пэнсіі і тэрмін, на які вызначаецца пэнсія непаўналетнім асобам.

## VII. Парадак прызначэньня дзяржаўнага забясьпечаньня.

49. Асобы, маючыя права на дзяржаўнае забясьпечаньне, паказаныя ў арт. арт. 11, 30, 34 і 37 гэтай інструкцыі, калі яны знаходзяцца ў папраўна-працоўных дамох да суда альбо адбываюць пакараньне ў гэтых дамох за зробленыя імі злачынствы—пазбаўляюцца права на дзяржаўнае забясьпечаньне на час адбываньня пакараньня альбо ўтрыманьня да суда.

Асобы, якія будуць па суду апраўданы, маюць права атрымаць пэнсію за ўвесь час знаходжаньня ў зняволненьні.

50. Для атрыманьня дзяржаўнага забясьпечаньня паводле, гэтай інструкцыі, асобы паказаныя ў арт. арт. 11, 30 і 34 гэтай інструкцыі, падаюць заяву па месцы свайго пражываньня гарсавету, мест. савету, с.-савету.

51. Асобы, паказаныя ў арт. 3 гэтай інструкцыі, атрымліваюць дзяржзабясьпечаньне без падачы заявы.

52. Асобы, паказаныя ў арт. 37 гэтай інструкцыі, падаюць заяву аб прызначэньні ім пэрсанальнай пэнсіі ва ўстановы па месцы службы, калі яны працуюць, а ўстановы павінны пераслаць гэты матарыял адпаведнаму гарсавету, альбо раённаму выканаўчаму камітэту са сваім заключэньнем і з далучэньнем патрэбных дакумэнтаў.

Гарадзкія саветы, альбо раённыя выканаўчыя камітэты накіроўваюць гэтыя заявы з усімі дакумэнтамі і з сваёй пастановай у Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня.

Асобы, якія нідзе не працуюць, падаюць заяву аб назначэньні пэрсанальнай пэнсіі, альбо дапамогі таксама па месцы пражываньня адпаведнаму райвыканкому, гарсавету, або непасрэдна НК Сац. Забясьпечаньня.

53. Установы, прыняўшыя хадайніцтва, павінны ўжыць захады да атрыманьня патрэбных зьвестак, якія-б сьведчылі аб выдатных заслугах асоб, праз адпаведныя органы (Цэнтрархіў, Усесаюзнае Т-ва былых Паліткатаржан і ссыльных пасяленцаў, ДПУ і г. д.).

54. Хадайніцтвы аб прызначэньні пэрсанальнай пэнсіі асобам, альбо сем'ям, могуць узбуджацца і па ініцыятыве саміх устаноў і арганізацый, але абавязкова з усімі матарыяламі, якія-б давалі права на атрыманьне пэрсанальнай пэнсіі.

55. Для разгляду заяў асоб, паказаных у арт. 11, 30 і 34 гэтай інструкцыі, аб прызначэньні ім дзяржаўнага забясьпечаньня пры сельсаветах, мест. саветах і гарсаветах утвараюцца міжведамсьцьвеныя камісіі:

а) пры сельск. і мест. саветах—з прадстаўнікоў: члена прэзыдыуму савету, адказнага за пастаноўку справы сацыяльнае забясьпекі (старшыня) і членаў: старшыні камітэту сялянскіх т-ваў узаемадапамогі і члена савету;

б) пры гарсаветах—з прадстаўнікоў: члена прэзыдыуму гарсавету—асобы, адказнай за пастаноўку справы сацыяльнае забясьпекі (старшыня) і членаў: старшыні камітэту ўзаемадапамогі і прадстаўніка Страхкасы.

Гэтыя камісіі абслугоўваюцца апаратам сельск. ці мест. савету або гарадзкога савету.

56. Заявы, якія падаюцца на разгляд камісіі, павінны быць разгледжаны не пазьней 2-х тыдняў пасьля іх падачы і далучэньня ўсіх патрэбных для прызначэньня дзяржзабясьпечаньня дакумэнтаў.

57. Пастанова камісіі лічыцца канчатковай. Асоба, не задаволеная пастановай камісіі, можа ў месячны тэрмін з дня атрыманьня паведамленьня камісіі, падаць у прэзыдыум с/с, с/м альбо гарсавету, скаргу, якая павінна быць разгледжана не пазьней, як на бліжэйшым пасяджэньні Прэзыдыуму.

Пастанова Прэзыдыуму савету альбо гарсавету праводзіцца ў жыцьцё безадкладна.

58. У парадку разгляду нездаволеная асоба можа падаць скаргу раённаму інспэктару сацыяльнага забясьпечаньня, але праз Прэзыдыум савету альбо гарсавету, якія вынесьлі пастанову аб прызначэньні, альбо адказе ў прызначэньні пэнсіі; у такіх выпадках савет альбо гарсавет перасылае скаргу нездаволенага з усёй справай і з сваёй пастановай раённаму інспэктару сацыяльнага забясьпечаньня.

Раённы інспэктар сацыяльнага забясьпечаньня, атрымаўшы заяву і справу нездаволенага, павінен у трохдзённы тэрмін разглядзець яе ў парадку нагляду і даць сваё заключэньне з пункту пагляду парушэньня існуючых законаў, з канкрэтнай прапановай, што трэба зьмяніць

або дапоўніць, альбо пакінуць скаргу без задавальненьня, і даслаць яе разам з справай савету альбо гарсавету для правядзеньня ў жыцьцё з адначасовым паведамленьнем скаргніка.

59. Справа асобы, якой было ўжо адмоўлена ў прызначэньні пэнсіі, можа разглядацца ўноў незалежна ад таго, які час прайшоў з дня папярэдняй пастановы, калі з пададзеных ёю дакумэнтаў будзе відаць, што ў маемасна-сямейным становішчы маюцца такія зьмены, што забясьпечаньне можа быць прызначана, альбо калі пададзеныя новыя дакумэнты могуць зьявіцца падставай для ўстанаўленьня інваліднасьці, сьмерці і г. д.

60. Як правіла, справы ўсіх пэнсіянэраў павінны пераглядацца штогод і пэрыядычна—справы тых асоб і іх сем'яў, якім пэнсія была вызначана на пэўны тэрмін (альбо дасягненьня вызначанага ўзросту дзіцяці).

Увага. Пасьля заканчэньня справы аб прызначэньні пэнсіі, усе адпаведныя дакумэнты падшываюцца ў справу на кожнага пэнсіянэра паасобку і захоўваюцца ўвесь час у тых установах, дзе яны заведзены.

61. На пасяджэньнях Міжведамсьцьвенай Камісіі вядуцца пратаколы, альбо журнальныя пастановы, якія падпісваюцца членамі і сакратаром Камісіі. Адзін экзэмпляр выпіскі з пратаколу альбо журнальнай пастановы далучаецца да справы асобы, якой прызначана пэнсія.

62. Разгляд заяў асоб, паказаных у арт. 37 гэтай інструкцыі, на прызначэньне пэрсанальнай пэнсіі і дапамогі, робіцца Міжведамсьцьвенай Камісіяй, існуючай пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забясьпечаньня.

63. За няправільнае адмаўленьне ў дзяржаўным забясьпечаньні, альбо за прызначэньне дзяржаўнага забясьпечаньня асобам, якія ня маюць на гэта права, ці ня маюць патрэбы ў забясьпечаньні, а таксама і за стварэньне валакіты і бюракратызму, асоба, якая адказвае за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня, прыцягваюцца да адказнасьці.

## VIII. Парадак афармленьня пэнсійных спраў.

64. Афармленьне пэнсійных спраў і выдача самой пэнсіі і дапамогі праводзіцца наступным парадкам:

а) для асоб, паказаных у арт. 3 гэтай інструкцыі, на падставе інструкцыі № 4 за 28/X-1929 г. Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня, узгодненай з штабам Беларускай Ваеннай Акругі і апублікаванай у № 14 Бюл. СНК БССР за 1929 г.

б) сьпіскі льготнікаў першага, другога і трэцяга разраду пераменнага складу тэрытарыяльных частак Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, сем'і якіх маюць права на дзяржаўнае забясьпечаньне ў працягу трох месяцаў першага году службы, перасылаюцца ў органы сацыяльнага забясьпечаньня тымі тэр. часьцямі, у якіх апошнія адбываюць тэр. збор.

65. Для асоб, паказаных у арт. 11 гэтай інструкцыі, патрэбна прадстаўленьне наступных дакумэнтаў:

а) для інвалідаў грамадзянскай і імпэрыялістычнай вайны і вайскоўцаў кадравых і тэрытарыяльных часьцей Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, вайсковых частак, альбо госпіталяў дакумэнт аб тым, што інваліднасьць зьвязана з праходжаньнем вайсковай службы;

б) на інвалідаў былых чырвоных партызанскіх атрадаў і Чырвонай гвардзіі—пасьведчаньні райвыканкому, выдадзеныя на падставе бясспрэчных аб гэтым дакумэнтаў;

в) на асоб, страціўшых працаздольнасьць у выніку ваенізацыі насельніцтва, пасьведчаньні органаў Асоавіахіму аб тым, што працаздольнасьць ім страчана ў выніку ваенізацыі насельніцтва;

г) для асоб, страціўшых працаздольнасьць у выніку выкананьня работ для Чырвонай Арміі—пасьведчаньні РВК, альбо той вайсковай часткі, якой ён быў прызван, аб тым, што гэта асоба страціла працаздольнасьць у зьвязку з выкананьнем работы для Чырвонай Арміі;

д) для асоб, страціўшых працаздольнасьць у выніку актыўнага змаганьня з контррэвалюцыяй, пасьведчаньне РВК альбо адпаведных органаў;

е) для асоб, страціўшых працаздольнасьць у зьвязку з аказаньнем дапамогі адпаведным органам у барацьбе са злачынствамі і навальнымі бядотамі—пасьведчаньне РВК, міліцыі і савету.

66. Апроч пералічаных вышэй дакумэнтаў, асобы, паказаныя ў арт. 11 гэтай інструкцыі, прадстаўляюць наступныя дакумэнты:

а) пастанову мэдыцынскай камісіі аб страце працаздольнасьці самой асобы і непрацаздольных членаў сям'і звыш 16 гадоў, калі такія ёсьць;

б) зьвесткі аб сямейна-маемасным становішчы з дакумэнтамі аб узросьце членаў сям'і, а для сялян яшчэ і копію акладнога ліста.

67. Для асоб, паказаных у арт. 30 гэтай інструкцыі:

а) для прызначэньня пэнсіі гэтым асобам імі прадстаўляюцца ўсе тыя дакумэнты, якія пералічаны ў арт. 65 разьдзелу VIII гэтай інструкцыі і, апроч таго, дакумэнты аб сьмерці асобы, альбо аб тым, што асоба, на ўтрыманьні якой знаходзілася сям'я, патрабуючая аб прызначэньні пэнсіі, прапала невядома дзе.

> Увага. У выпадку немагчымасьці прадстаўленьня арыгіналаў дакумэнтаў ад вайсковых частак альбо шпіталю аб атрыманьні інвалідамі вайны раненьняў, а аб членах сям'і—аб іх сьмерці, у выключных выпадках гэты факт можа быць пацьверджаны для асоб, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях, прэзыдыумамі саветаў і іх пленумамі на падставе пэўных зьвестак, якія ў іх ёсьць, пад іх адказнасьцю за правільнасьць гэтых зьвестак. У гарадох і мястэчках такія дакумэнты выдае гарадзкі або местачковы савет.

б) для сем'яў гэтых асоб, якім ужо была вызначана пэнсія і яны памерлі, ніякіх дакумэнтаў прадстаўляць ня трэба, за выключэньнем мэтрычнай выпіскі аб сьмерці асобы, на ўтрыманьні якой знаходзілася сям'я.

68. Для асоб, паказаных у арт. 34 гэтай інструкцыі патрэбна прадстаўленьне наступных дакумэнтаў:

а) для глуханямых, сьляпых, састарэлых і дэклясаванага элемэнту, нямаючага сродкаў для пражыцьця—пасьведчаньне РВК, міліцыі або савету аб сямейна-маемасным становішчы і адсутнасьці сваякоў, якія-б маглі іх утрымоўваць;

б) пастанова мэдыцынскай камісіі і аб страце працаздольнасьці;

в) для састарэлых сялян, пражываючых у сельскіх мясцовасьцях —пасьведчаньне с.-савету, местачковага савету, альбо Камітэту сялянскіх т-ваў узаемадапамогі аб сямейна-маемасным становішчы, альбо даведка аб вызваленьні ад сельска-гаспадарчага падатку.

69. Для асоб, пералічаных у арт. 37 гэтай інструкцыі, патрэбна прадстаўленьне наступных дакумэнтаў:

а) уласны жыцьцяпіс з падрабязным паказаньнем галоўных момантаў працы;

б) службовыя сьпісы;

в) дакумэнты мэдыцынскай камісіі аб страце працаздольнасьці;

г) пасьведчаньне міліцыі, гарсавету альбо сельск. і мест. савету аб сямейна-маемасным становішчы з даведкай аб гадох членаў сям'і і пастановай мэдкамісіі аб непрацаздольнасьці членаў сям'і ад 16 гадоў;

д) для асоб, маючых выдатныя ваенныя заслугі, дакумэнты ад Рэўваенсавету СССР альбо яго мясцовых ваенных органаў; у крайнім выпадку дапускаць прадстаўленьне даведак добра ведаючых аб сумеснай працы трох-чатырох членаў ВКП(б).

е) пры адсутнасьці належных дакумэнтаў можна спасылацца на паказаньні сьведак па сумеснай працы, пры наяўнасьці ў апошніх дакумэнтаў ад тых вайсковых частак, дзе яны працавалі.

## IX. Парадак выдачы пэнсій і часовых дапамог.

70. Пэнсіі і дапамогі асобам і іх сем'ям, паказаным у арт. арт. 11, 30, 34, 37 гэтай інструкцыі, вызначаюцца з дня вынясеньня пастановы Міжведамсьцьвенай Камісіяй аб прызначэньні пэнсіі незалежна ад дня паступленьня самой заявы.

71. Выплата пэнсіі і сталай дапамогі асобам і іх сем'ям, пражываючым у гарадзкіх паселішчах і сельскіх мясцовасьцях, праводзіцца адпаведнымі гарсаветамі і райвыканкомамі, альбо, па іх даручэньню, мясцовымі банкамі, крэдытнымі ўстановамі ці касамі ашчаднасьці.

72. Выплата пэнсіі і сталай дапамогі кантынгэнту сацыяльнага забясьпечаньня, пражываючаму ў сельскіх мясцовасьцях, праводзіцца на падставе абежніку Народнага Камісарыяту Фінансаў і Сацыяльнага Забясьпечаньня № 2414 за 6-га сьнежня 1929 г. (Бюл. СНК БССР №15 1929 г.)

73. Выплата пэнсіі пэрсанальным пэнсіянэрам і іх сем'ям утвараецца НК Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР па месцы іх пражываньня праз адпаведныя банкаўскія і крэдытныя ўстановы або касы ашчаднасьці.

74. Выплата пэнсіі кантынгэнту сацыяльнага забясьпечаньня праводзіцца штомесячна кожнага 1 дня за пражыты м-ц.

Выплата пэнсіі, наперад ні ў якім разе не дапускаецца.

Увага. Назначаная і неатрыманая пэнсія бяз грунтоўных прычын на працягу аднаго году з дня паведамленьня аб прызначэньні пэнсіі альбо з дня апошняй выдачы яе траціць права на ўсю неатрыманую ім суму пэнсіі, якая ў такіх выпадках ідзе ў карысьць Дзяржавы.

75. У выпадках пераезду на другое месца жыхарства асоб і іх сем'яў, паказаных у арт. арт. 11, 30, 34 гэтай інстр., асоба, жадаючая пераехаць, падае аб гэтым заяву ў тую ўстанову, якой вызначалася пэнсія, і апошняя павінна перавесьці астатнюю суму да канца бюджэтнага году па месцу новага жыхарства выехаўшай асобы.

Для атрыманьня пэнсіі ў новым месцы жыхарства, зацікаўленая асоба павінна заявіць у адпаведныя органы сацыяльнага забясьпечаньня ня менш, чым за тры месяцы да пачатку новага бюджэтнага году.

Увага. Ва ўсім астатнім кіравацца пастановай СНК СССР за 24 кастрычніка 1927 г.—З. З. СССР 1927 г. № 61, арт. 621.

## X. Парадак прыстасаваньня да працы кантынгэнту сацыяльнага забясьпечаньня ў каперацыйныя аб'яднаньні інвалідаў і іншыя ўстановы і прадпрыемствы.

76. Асобы і іх сем'і, знаходзячыяся на дзяржаўным забясьпечаньні, жадаючыя прыстасавацца да працы, падаюць аб гэтым заяву па месцы свайго жыхарства ў адпаведныя органы сацыяльнага забясьпе-

чаньня і апошнімі накіроўваюцца ў адпаведныя аб'яднаньні інвалідаў, калі там ёсьць свабодныя месцы.

77. На асоб і іх сем'і, жадаючыя прыстасавацца да працы, адпаведнымі органамі сацыяльнага забясьпечаньня вядзецца дакладны падлік.

78. У першую чаргу прыстасоўваюцца да працы ў каперацыйныя аб'яднаньні інвалідаў найменш забясьпечаныя матарыяльна кантынгэнты сацыяльнага забясьпечаньня.

79. Працаздольныя жонкі інвалідаў, пры жыцьці сваіх мужоў, а таксама дзеці інвалідаў правам на пасылку ў каперацыйныя аб'яднаньні інвалідаў не карыстаюцца.

80. Пры капераваньні кантынгэнту сацыяльнага забясьпечаньня, адпаведнымі органамі сацыяльнага забясьпечаньня ўносіцца за капераванага яго пэнсія за тэрмін ад 6 да 12 месяцаў у тое каперацыйнае аб'яднаньне інвалідаў, да якога тая або іншая асоба будзе прымацавана да працы.

Увага. Асобы аднесяныя па страце працаздольнасьці да 4-й групы інваліднасьці правам на капіталізацыю пэнсіі не карыстаюцца, бо яны ня маюць права на атрыманьне апошняй.

81. Пры выхадзе тэй або іншай каперыванай асобы з каперацыйнага аб'яднаньня інвалідаў уся, унесяная за яго капіталізаваная пэнсія цалкам зварачваецца таму органу сацыяльнага забясьпечаньня, ад якога яна была атрымана.

82. У кожным паасобным выпадку прымацаваныя да працы інваліды могуць захоўваць за сабой права на атрыманьне пэнсіі на тэрмін да 6 месяцаў пры ўмове іх малага заробку ў каперацыйным аб'яднаньні.

83. Кантынгэнт сацыяльнага забясьпечаньня ўсіх чатырох груп інваліднасьці, апроч каперацыйных аб'яднаньняў інвалідаў, мае права на прымацаваньне да працы ў іншыя ўстановы і прадпрыемствы праз адпаведныя органы сацыяльнага забясьпечаньня.

## XI. Парадак выдачы ільготных літэраў на праезд па чыгунцы інвалідам і іх сем'ям.

84. Ільготны праезд па чыгунцы кантынгэнту сацыяльнага забясьпечаньня выдаецца ў наступных выпадках:

а) пры праезьдзе забясьпечанага на сталае месца жыхарства;

б) пры накіраваньні інваліда ва ўстановы сацыяльнага забясьпечаньня;

в) пры камандыроўцы забясьпечваемых у вышэйшыя навучальныя ўстановы;

г) пры накіраваньні забясьпечваемых на курортнае лячэньне;

д) пры камандыроўках, зьвязаных з пратэзаваньнем.

85. Пры ад'ездзе забясьпечанага на сталае месца пражываньня адпаведныя органы сацыяльнага забясьпечаньня выдаюць льготны праезд, але ня больш як адзін раз у год, як на самаго забясьпечанага так і на членаў яго сям'і, калі апошняя пажадае з ім паехаць, прычым грашовая даплата на праезд выдаецца ў кожным асобным выпадку ў залежнасьці ад нуждаемасьці забясьпечанага і наяўнасьці сродкаў на гэтую мэту.

86. Ва ўсіх выпадках камандыровак забясьпечваемых, зьвязаных з пратэзаваньнем, а таксама пры паездцы ва ўстановы сацыяльнага забясьпечаньня, пры камандыраваньні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і пры пасылцы на курорты органамі сацыяльнага забясьпечаньня абавязкова выдаецца даплата на праезд па чыгунцы ў абодвы канцы.

87. Правам на льготны праезд па чыгунцы карыстаюцца толькі асобы, што знаходзяцца на дзяржаўным забясьпечаньні.

Выдача льготных праездаў па чыгунцы іншым асобам катэгарычна з а б а р а н я е ц ц а.

## XII. Парадак накіраваньня забясьпечваемых на курортнае і санаторнае лячэньне.

88. Правам пасылкі на курортнае і санаторнае лячэньне карыстаюцца толькі інваліды грамадзянскай вайны, былыя чырвоныя партызаны і чырвонагвардзейцы і асобы, атрымліваючыя пэрсанальную пэнсію.

89. Пасылка на курортнае і санаторнае лячэньне асоб, адзначаных у арт. 88 гэтага разьдзелу, праводзіцца адпаведнымі органамі сацыяльнага забясьпечаньня на мясцох, за рахунак месц, што адпускаюцца Народным Камісарыятам Сацыяльнага Забясьпечаньня і разьмяркоўваюцца штогод па раёнах і гарсаветах.

90. Для атрыманьня месц на курорт альбо ў санаторый асобы, адзначаныя у арт. 88 гэтай інструкцыі, праходзяць праз раённыя і гарадзкія адборачныя ўрачэбныя камісіі з абавязковым удзелам прадстаўніка органу сацыяльнае забясьпекі.

91. З выданьнем гэтай інструкцыі касуюцца ўсе раней выданыя Народным Камісарыятам Сацыяльнага Забясьпечаньня інструкцыі і абежнікі па сацыяльнаму забясьпечаньню, за выключэньнем наступных інструкцый і абежнікаў, якія застаюцца ў сіле:

а) інструкцыя НК Сацыяльнага Забясьпечаньня „Пра парадак афармленьня дакумэнтаў і назначэньня сацыяльнага забясьпечаньня непрацаздольным членам вайскоўцаў, льготнікаў радавога і малодшага начальніцкага складу, што адбываюць бесперапынную абавязковую вайсковую службу ў кадравых частках РСЧА БССР“ (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 14)

б) абежнік НК Фінансаў „Пра парадак выплаты пэнсіі і сталых дапамог кантынгэнту органаў сацыяльнага забясьпечаньня ў сельскіх мясцовасьцях“ (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 15).

Нам. Народнага Камісара Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР **А. Федарэнчык.**

Інспэктар Дзяржзабясьпечаньня БССР **Л. Русачэнка.**

Сакратар НКСЗ БССР **П. Лебядзеў.**

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР, Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Шляхоў СССР пры СНК БССР і Кіраўніцтва Беларускай Краявой Канторы „Саюзтранс“.

### Паст. 184. Пра ўзмацненьне пажарнай аховы памяшканьняў, у якіх захоўваюцца перавазімыя цяжары.

*Усім РВК, Менскаму, Віцебскаму, Гомельскаму гарсаветам, начальнікам станцый і прыстаняй, кіраўнікам кантор „Саюзтрансу“ і таможным агэнцтвам.*

*КОПІЯ—Начальнікам эксплёатацыйных раёнаў чыгунак, Начальнікам рачных агэнцтваў у межах БССР, Начальнікам пажарнай аховы гарадоў.*

Пасьпяховае разьвіцьцё сацыялістычнага будаўніцтва мае цесную сувязь з пытаньнем нармальнага бесперапыннага снабжэньня насельных пунктаў прадуктамі і прамтаварамі.

Разгортваючыяся ў сучасны момант асеньня-зімовыя перавозкі маюць вялікае значэньне і павінны ў асноўным вырашыць справу снабжэньня.

Каб забясьпечыць належную пастаноўку перавозак у сэнсе найхутчэйшага перасоўваньня грузаў і захоўваньня апошніх у складзкіх памяшканьнях, трэба згрупаваць максімум увагі на гэтае пытаньне ня толькі з боку арганізацый, непасрэдна занятых гэтай справай, але наогул усяе рабоча-салянскай грамадзкасьці.

У сувязі з недахопамі спэцыяльна пабудаваных складаў, паравазімыя грузы захоўваюцца ў большасьці ў памяшканьнях, якія не заўсёды адпавядаюць свайму прызначэньню.

Асабліва за апошні час, з увядзеньнем 2-х і 3-хзьменнай работы на складах, павялічэньнем прыладаў для апалу і асьвятленьня, значна ўзрасла пажарная небясьпека.

Улічваючы ўсё паказанае вышэй трэба зараз-жа ўжыць тэрміновыя захады да ўзмацненьня пажарнай аховы памяшканьняў, у якіх захоўваюцца паравазімыя цяжары, прыцягнуўшы да гэтага рабочыя масы і паставіўшы гэтую справу пад нагляд і кантроль рабочых мас.

У якасьці практычных мерапрыемстваў па пажарнай ахове складаў прапануецца наступнае:

1) узмацніць працу па штодзённай пажарнай ахове складаў праз павялічэньне пажарных пастоў, арганізацыю дабравольных пажарных дружын, палепшаньне вадазабясьпечаньня і набыцьцё пажарнага інвэнтару;

2) праводзіць ня менш аднаго разу ў месяц супроцьпажарныя абгляды з прыняцьцем тэрміновых мер для адхіленьня недахопаў, якія будуць выкрыты абглядам;

3) прыцягнуць да адказнасьці асоб, якія ня будуць выконваць прадугледжаныя актамі супроцьпажарныя мерапрыемствы, накіроўваючы акты абглядаў у адпаведныя органы.

Пэрсанальная адказнасьць за становішча супроцьпажарнай аховы складзкіх памяшканьняў ускладаецца: на начальнікаў станцый і прыстаняй, кіраўнікоў кантор „Саюзтрансу“.

Кантроль і нагляд за правядзеньнем супроцьпажарных мерапрыемстваў складзкіх памяшканьняў ускладаецца на органы дзяржаўнага пажарнага нагляду, адпаведныя РВК і гарсаветы, якія праводзяць гэту працу пры непасрэдным удзеле рабочай грамадзкасьці.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў
БССР **Я. Кроль.**

Нам. Упаўнаважанага НК Шляхоў пры СНК
БССР **Леднік.**

Кіраўнік Беларускай Краявой Канторы
„Саюзтранса“ **Трахман.**

24 кастрычніка 1930 г. № 85.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

**Паст. 183. Пра недапушчальнасьць скарыстаньня пажарных коняў і маемасьці на мэты, ня маючыя дачыненьня да пажарнай аховы“.**

***Усім РВК і Гарсаветам. Копія—Начальнікам пажарнай аховы гарадоў.***

Па матарыялах НКУС БССР адзначаецца, што за апошні час па некаторых пажарных камандах, асабліва ў раённых гарадох, наглядаюцца выпадкі скарыстаньня пажарных коняў і маемасьці на мэты,

ня маючыя дачыненьня да пажарнай аховы, з прычыны чаго паслабляецца баявы склад пажарнай каманды.

Зварочваючы ўвагу на ненармальнасьць такога зьявішча, НКУС катэгарычна прапануе кіравацца пастановай СПА за 9/V-1921 г. (З. З. Рабоча-Сялянскага Ураду за 1921 г. № 39, арт. 208) „Аб мерах да захаваньня пажарных абозаў і ўтрыманьня іх у баявой гатоўнасьці“.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

24 кастрычніка 1930 г.
№ 83.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друк. Кіраўн. Спраў СНК і Экан. Нарады БССР. З. № 191—4500. Галоўлітбел № 1572.